# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1709) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 12 ЛЮТАГА 1989 г. ЦАНА 20 зл.


## ЭКЗАМЕН ПА СТАЛАСЦІ—ХТО ЯГО ЗДАЎ?

Адзін з найлепшых беларускіх рок-гуртаў „Бонда" пабываў у Польшчы. Выступіў у Варшаве і Гайнаўцы. Яго прыезд у Польшчу быў кароткім, проста сігнальным, як вытлумачыў нам дырэктар „Альма-арту", беластоцкай фірмы, якая займаецца арганізацыяй канцэртаў у студэнцкім і маладзёжным асяроддзі, Ежы Камінскі. Гэтая ж фірма і арганізавала прыезд „Бонды" ў рамах прыгранічных кантактаў паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай.

Праўда, калектыў „Бонда" — гэта сталічны рок-гурт, але гродзенскі камітэт камсамола, стараючыся паказаць сваім заграністым партнёрам усё найлепшае, што ёсць у іх, запрапанаваў „Бонду", за што польскія слухачы могуць ім быць толькі ўдзячны.

Рок-гурт „Бонда" грае і спявае ў асноўным сваім складзе ад 1982 года, а з 1984 года — пад назвай „Бонда". Пяць хлопцаў-музыкантаў выконваюць на сучасных электронных інструментах уласныя музычныя кампазіцыі, падкладаючы пад іх уласныя словы. Галоўнай тэмай іх музычнага выказвання з'яўляецца злабадзённасць, набалеўшыя справы нашага жыцця, спробы выказацца, заняць сваю грамадзянскую пазіцыю ў сучасным складаным свеце.

Музычным кіраўніком групы і першай гітарай з'яўляецца Іван Маркаў. Разам з вакалістам Ігарам Варашкевічам і перкусістам і аўтарам тэкстаў Сяргеем Кнышам яны былі заснавальнікамі гурту. У гэтым жа складзе, пры ўдзеле Андрэя Хмяльніцкага (бас-гітара) і Мікалая Логінава (другая гітара) яны ствараюць сваю праграму. Памагаюць у апрацоўцы нумараў і гукааператары Аляксандр Белізяк і Сяргей Берднік.



*Андрэй Хмяльніцкі — бас-гітара.*

Наколькі моцна гучыць са сцэны музычны непакой выканаўцаў, пераканаліся гледачы на канцэртах, а каму не ўдалося пабываць на іх, прапаную хоць тэкст некалькіх кароткіх песень.

### КУРАПАТЫ

Ты падышоў да нябачных магіл.
Затрымайся, далей не крoч.
Ты падышоў да заклятай мяжы,
За якой пачынаецца ноч,
Ноч гулкіх стрэлаў, крывавых зор,
Што абнялі абшар,
А наўкруг зацвілі курапаты,
Нібы вочы бязвінных ахвяр.
Прыпеў:
Паглядзі наўкруг — гэта кветкі жальбы — Курапаты.
Ты іх кроўны ўнук, бойся іхняй веры.
Бойся жоўтай, як дзень, слепаты.

Тая ноч, нібы чорны наган,
Скіраваны некаму ў скронь.
Густыя кроплі крывавай расы
Выпадаюць у тваю далонь.
Хто ён — твой вораг, хто ён — твой кат?
Мо, дзесьці сярод нас?
А наўкруг зацвілі курапаты,
Нібы вочы бязвінных ахвяр.

І яшчэ хоць некалькі радкоў з песні

### ПРЫЙДЗЕ ІХ ДЗЕНЬ.

Ім пазычылі чужое аблічча,
Ім замкнулі памяць на замок,
Ім маўклівасць стала за звычай,
Ім даўно ўжо мову заняло.
Не ўзгадаць ім, скуль яны родам,
Не адужаць летаргічнага сну.
Ім атруцілі азёры, рэкі і розум,
Ім далі імя — тутэйшыя...

Але прыйдзе іх дзень,
І тутэйшаю мовай
Зноў загаворыць род глухіх і нямых.
Прыйдзе іх дзень,
І край, выкляты Богам,
Стане сваім для чужых.

Наконт свайго музычнага стылю не хочуць выказвацца абсалютна, не хочуць класіфікаваць сябе ў нейкі адзін напрамак. Выкарыстоўваюць усё, што дапамагае ім выказваць свае канкрэтныя пачуцці, тое, аб чым хоча спяваць душа.

У рэпертуары — выключна беларускія песні. На маё пытанне, што іх, маладых людзей,

(Працяг на стар. 6)

## З ДРУКУ

### АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ

Апошнім часам тыднёвік „Polityka" змясціў два артыкулы аб нацыянальных меншасцях пяра праф. Ежы Тамашэўскага. Першы з іх „Różne płaszczyzny pluralizmu", надрукаваны ў 49 нумары ад 3 снежня 1988 г. Аўтар прапануе, каб у будучым Сейме нацыянальныя меншасці прадстаўляла больш-менш 8 паслоў (дэпутатаў). Піша ён:

„Otóż proponuję ustanowienie ogólnopolskiej listy mniejszościowej, na której znalałyby się — powiedzmy — 24 nazwiska osób zaproponowanych w części przez walne zgromadzenie narodowych stowarzyszeń, w części przez inne reprezentacje mniejszości narodowych (choćby zebrania wiejskie tam, gdzie to jest możliwe). ... Dzięki obecności tych posłów, a przede wszystkim dzięki udziałowi w dyskusjach oraz innych pracach sejmowych, parlament polski zdoła uzyskać lepszą znajomość zagadnień ważnych dla pewnej grupy obywateli, obecnie nazbyt często zapominanej".

Другі артыкул „Szacunek dla mniejszości" („Polityka" Nr 2 z 14.01.1989 г.) засяроджваецца на пасланні папы Яна Паўла II на 27 Сусветны дзень міру, 1 студзеня 1989 г. Праф. Ежы Тамашэўскі піша:

„Dwa elementy wyróżnia Jan Paweł II w swych refleksjach. Jeden, to zadania państwa:

◄ *„państwo ma obowiązek chronienia i popierania praw grup mniejszościowych, tym bardziej że pokój i wewnętrzne bezpieczeństwo mogą być zagwarantowane tylko przy poszanowaniu praw tych wszystkich, którzy znajdują się w zasięgu jego odpowiedzialności. (...) Innym prawem, które powinno być przestrzegane, jest prawo mniejszości do zachowania i rozwijania własnej kultury. (...) O prawie do wolności religijnej wspomnę tu tylko pokrótce (...)".*

W związku z tym mówi orędzie o sprawie szczególnie mi bliskiej, ważnej dla polskiej kultury: przestrzega przed lekceważeniem twórczości literackiej i artystycznej mniejszości, krytycznie ocenia usuwanie historycznych nazw geograficznych, potępia pozbawianie prawa do posługiwania się własnym językiem.

Drugi element dotyczy postaw społecznych:

◄ *„Jednakże nawet najbardziej istotne środki prawne nie wystar-*

(Працяг на стар. 2)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КЕЛЬЦАХ

Развязаўся мяшок з кніжнымі аўкцыёнамі! Чарговы — адбудзецца 15-17 лютага г.г. у палацыку Зялінскіх у Кельцах. Ніжэй друкуем цікавейшыя пазіцыі з аўкцыённага каталога:

*Poz. 32 — Baltoslavica, t. 2, 1936 r. (zawiera m.in.: Stan badań nad klasyfikacją dialektów białoruskich). Cena wywoławcza 2,4 tys. zł.*

*Poz. 79 — Kwartalnik Historyczny, r. 10 (1986), Z. 4. (zawiera m.in.: Średniowieczne biskupstwa Kościoła wsch. na Rusi i Litwie; Z dziejów unii brzeskiej). C. w. 1,5 tys. zł.*

*Poz. 394 — Dyakowski B., Z puszczy Białowieskiej. Warszawa 1908. C. w 400 zł.*

*Poz. 745 — Akta unii Polski z Litwą 1385—1791. Kraków 1932. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 772 — Baliński M., Lipiński T., Starożytna Polska..., W-wa 1846, tom 3 (w całości poświęcony Wlk. Ks. Litewskiemu). C. w. 8 tys. zł.*

*Poz. 927 — Dębiński K., Raskol i sekty Prawosławnej Cerkwi Rosyjskiej, W-wa 1910. C. w. 800 zl*

*Poz. 959 — Ejsmond J., Wspomnienia myśliwskie, W-wa b. r. w. C. w. 400 zl.*

*Poz. 1019 — Grivec F., ŚŚ. Cyryl i Metody apostołowie Słowian, Kraków 1930. C. w. 500 zł.*

*Poz. 1358 — Likowski E., Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku..., cz. 2, W-wa 1906. C. w. 2,4 tys. zł.*

*Poz. 1359 — Likowski E., Rokowania poprzedzające Unię Brzeską, Kraków 1886. C. w. 500 zł.*

*Poz. 1406 — Pamiętnik Mikołaja II od roku 1890 do 31 grudnia 1917, W-wa 1924. C. w. 2,6 tys. zł.*

*Poz. 1491 — Pietkiewicz Cz., Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Materjały etnograficzne, W-wa 1938. C. w. 1,4 tys. zł.*

*Poz. 1575 — Rudakow A., Kratkoje uczenije o bogosłużenii prawosławnoj cerkwi..., S. Pietierburg 1884. C. w. 500 zł.*

Пісьмовыя заказы прымаюцца па адрасу:
Antykwariat, ul. Świerczewskiego 39/41, 25-025 Kielce (nr tel. 458-19).
У іх неабходна падаць' аўтара, загаловак і найвялікшую суму грошай, якую заказчык можа заплаціць за выданне.

**Пятрусь Байко**

## ДОМ КРЫЎДЫ

У Ялоўцы, што ў Міхалоўскай гміне, ля самай граніцы з БССР, ёсць Дом пенсіянераў. Дажываюць там старыя людзі, якім не хапіла месца ў хатах сваіх дзяцей. Яны сталі сваім дзецям непатрэбныя, як нейкі стары прадмет. Калісьці гэты „прадмет“ быў патрэбны — даў жыццё, выхоўваў, карміў, туліў да сэрца, а цяпер яго дзеці аддалі пад апеку дзяржавы.

Быў я ў Ялоўцы на трэці дзень Каляд. Хто прыехаў, а хто і не, наведаць сваіх бацькоў. У нікога я не бачыў радасці з нагоды свята, бо ці можна цешыцца ў такіх умовах: дзеці гуляюць, а бацькі...

Дом пенсіянераў, гэта дом вялікай крыўды. Дом людзей, якіх дзеці проста здалі ў камеру хавання.

**Дзядзька Захар**




*Хата ў Цялушках гм. Нараў. Мал. У. Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

### ЖЫЛА-БЫЛА ЛЕГЕНДА

горшая! Надзерла вязавай кары, звязала ў дзве аграмадныя вязкі і пачала развважаць.

— У Заблудаў бліжэй. Але прадаць заблудаўскім яўрэям, куды, пэўна, многія луб носяць, дык, мабыць, і танна дадуць. Пайду ў Беласток. Горад большы, больш і патрабуе.

Кіруючыся логікай, узваліла на плечы вязкі і, калі толькі за поўнач перакінула, пайшла ў напрамку Беластока. Яўрэй — чалавек інтарэсу, купляе ўсё, на чым можна зарабіць. Памацаў кару, панюхаў, у пальцах пацёр і кажа: столькі і столькі дам.

— Столькі і столькі то ў Заблудаве плацяць, — кажа ўдавіца.

— Ну, нясі ў Заблудаў.

— То навошта ж я амаль з-пад Заблудава ў Беласток тралявала?

— А адкуль ты тралявала? — хітра пытае купец.

— Аж з Лубнік, — адказвае.

— Ну, а дзе тыя Лубнікі? — дапытваецца.

— Там вунь, за Пратасамі, сярод балот, там, дзе зямля з небам сыходзіцца. А хмары так нізка, што проста прачы за іх, нібы за траму, закладаць можна.

Яўрэй распытаў пра ўсё, што і як, ды расплаціўся. Удавіца дамоў з грашыма вярнулася. Калі ж вяскоўцы пайшлі луб дзерці, убачылі аголеныя пні вязаў ды ліп. Накінуліся на ўдавіцу:

—У Беласток тралявацъ узду-мала і растралявала наш луб.

Адгэтуль і павёўся фразеалагізм: „У Лубніках прачы за хмары закладаюць“ ды акрэсленне „лубніцкая трэля“ — у значэнні гаварыць многа і без патрэбы.

**Міхась Шаховіч**

### МОРА ЖЫВЕ!

Заехаў я ў беларускую вёску Мора, што ў Чыжоўскай гміне (на табліцы: „Можэ“?!)

Вёска прыгожая. Засталося яшчэ 60 гаспадароў. „Зямля тут добрая, маладыя не ўцякаюць у горад, як у іншых вёсках“, — кажа солтыс Алёша Філіманюк. Іван Сурэль, старшыня гуртка ЗМВ (Саюз вясковай моладзі) і ЛЗС (народныя спартыўныя калектывы) не скажа, што няма каму іграць у футбол. Маладыя спартсмены іграюць вельмі добра, заваявалі першае месца ў сваёй групе, увайшлі ў клас „Б“, У карыстанне членам ЛЗС аддалі будынак даўняй школы.

У камандзе пажарнікаў таксама шмат маладых, якія ў кожную хвіліну гатовы быць пры пажары. На жаль, няма ў іх свайго самахода, але і так даюць сабе рады.

Ёсць маладыя людзі, бурліць маладое жыццё. І жыхары Мора заўсёды ўспамінаюць: „Ад нас выйшлі такія людзі, як Зося Сачко і Віктар Швед“.

Вёска Мора жыве!

**Андрэй Гаўрылюк**



## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Дагэтуль мы асноўную ўвагу звярталі на змаганне Старабеларускай дзяржавы з яе паўночнымі і заходнімі суседзямі — ордэнамі крыжаносцаў і мечаносцаў, час ад часу закраналі сутычкі з Мазоўшам ці Малапольшчай і яшчэ радзей згадвалі пра войны з княствамі Паўночнай Русі: Маскоўскім, Разанскім ці Ноўгарадам Вялікім. І зусім, або амаль зусім, не займаліся справамі яе паўднёвых і ўсходніх граніц, а іх значэнне было зусім не меншае, забеспячэнне далёка не лягчэйшае ды і суседзі яшчэ болей небяспечныя.

Неабходна сабе ўсведамляць, што напады спачатку палавецкіх, затым, на змену ім, нашэсці татарскіх ордаў на паўднёва-ўсходнія беларускія землі былі не меней разбуральныя і знішчальныя, як атакі крыжакоў на заходнія ці паўночныя рэгіёны Беларусі. Татары яшчэ болей прагавіта рабавалі ўсё, што толькі змаглі вывезці, згарталі ў палон усю моладзь на продаж на торгах азіяцкіх гарадоў і чарнаморскіх партоў, пакідалі пасля сябе папялішчы ды труп'ё. Пад татарскай пагрозай былі не толькі Севершчына, Смаленшчына, Случчына ці Тураўшчына, але як ужо згадвалася ў ранейшых адрэзках „Шляхам гадоў“, татары з удзелам падлеглых ім галіцка-валынскіх князёў урываліся на Берасцейшчыну, Дарагічыншчыну, Гарадзеншчыну, а нават на Наваградчыну і ўчынялі там неймаверныя зніштажэнні. Выбівалі іх адтуль дружыны беларускіх во-



яў на чале з Міндоўгам і Гедымінам, з мясцовымі ўдзельнымі князямі, але па-сапраўднаму татарскім ханам адбіў ахвоту нападаць на землі Вялікага княства Літоўскага вялікі і званнем і подзвігамі князь-гаспадар Альгерд-Аляксей. Ён з юнацтва, яшчэ пад вокам і рукою свайго знакамітага бацькі Гедыміна, „спецыялізаваўся“ ў змаганні з татарамі, а з 1351 года і амаль да самае смерці (1377) вёў супраць іх безупынную і пераможную вайну.

У 1363 г, над рэчкай Сінія Воды (на поўдні сённяшняй Украінскай ССР) ён ушчэнт разграміў не толькі незлічоныя войскі Залатой арды, але і арміі аж трох залежных ад яе саюзнікаў. У выніку за болей як 25-гадовае змаганне князь Альгерд-Аляксей на чале беларускіх дружынаў вызваліў з татарскае няволі ўсходнюю ўскраіну беларускіх зямель (м.ін. Севершчыну) і амаль усю тэрыторыю сённяшняй Украіны, дайшоў да Чорнага і Азоўскага мораў, устанавіў граніцы Вялікага княства Літоўскага на паўднёвым усходзе па рацэ Доне, а на паўднёвым захадзе — па Днястры.

Аднак у канцы XIV ст., калі Вялікае княства Літоўскае акунулася ва ўнутрыдзяржаўнай калатні з надта ж актыўным удзелам крыжацкага Ордэна, Польскага Каралеўства і Вялікага княства Маскоўскага, татары зноў пачалі пагражаць паўднёва-ўсходнім ускраінам Вялікага княства Літоўскага. Нельга ж забываць, што ў помсце за паражэнне на Куліковым полі (1380) татары ў 1382 г. зраўнялі з зямлёю Маскву, абрабавалі ўсё Маскоўскае княства і суседнія землі і прымусілі яго плаціць цяжкую даніну яшчэ на працягу 100 год, бо аж да 1480 г. Маскоўскае княства не адважылася

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ




**Георгій Марчук**
**Вершы У. Някляева**

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Яніна. Што ж рабіць? Як папярэдзіць хлопчыкаў і дзяўчынак аб страшнай аперацыі каралевы Аварыі? Ясь... Брат мой Ясік, дзе ты? Ніхто мяне не чуе. Дапамажы мне, Бярозка, падкажы, што рабіць?

Бярозка. Я не змагу табе дапамагчы... старая ўжо...

Яніна. Я зноў палью твае карэнні і буду паліваць іх кожную ноч.

Бярозка. Дзякую, добрая дзяўчынка, але сілы пакідаюць мяне, а вецер хіліць голле да зямлі. Я падарую табе свой апошні лісцік. Трымай. Напішы на гэтым лісціку сваё імя, і вецер панясе яго ў Краіну дарожных знакаў.

Яніна. І знойдзе майго брата Ясі?

Бярозка. Так.

Яніна. Дзякуй табе, Бярозка. *(Бярэ лісцік).*

Бярозка. Спяшайся.

Яніна. Ты ляці, ляці, лісток, цераз захад на ўсход, цераз усе моры і горы — у краіну Светафора.

*Музыка.*

*З'яўляюцца каралева Аварыя, Няшчасны Выпадак, Трагічная Сітуацыя і Крумкач.*

Аварыя. А гэта хто такі?

Крумкач. Тая самая дзяўчынка Яніна, ваша вялікасць.

Аварыя. А чаму яна да гэтага часу жывая?

Няшчасны Выпадак. Зараз паправім справу.

Трагічная Сітуацыя. Пачакайце. Ёсць неблагая сітуацыя. Гэтая Бяроза пад сілай ветру праз гадзіну-другую ўпадзе і можа прыдушыць дзяўчынку.

Няшчасны Выпадак. О-хо-хо!

Аварыя. Цудоўна. Прывяжыце яе да Бярозы.

*Крумкач і Няшчасны Выпадак прывязваюць Яніну да Бярозкі.*

Яніна *(ціха, сама сабе).* Толькі б паспеў даляцець мой лісцік, толькі б паспеў.

*Крумкач трубіць. Сірэна „хуткай дапамогі".*

Крумкач. Усе, хто чуе і бачыць, хто ходзіць і поўзае, падайце, дзе стаіце. У каралеўстве Аварыі настае любімая мёртвая гадзіна. Усім спаць! Усім спаць.

Аварыя *(пазяхае).* Адпачнем, дзеці мае. Заўтра нас чакаюць вялікія справы. Трэба берагчы сілы.

**Карціна другая.**

*Краіна дарожных знакаў. Усюды светлыя прыгожыя фарбы. Знакі-Стрэлкі ўважліва слухаюць Светафора.*

Светафор. Усіх прашу падрыхтавацца да генеральнай рэпетыцыі. І раз, і два; і раз, і два. Галовы вышэй. Усмешкі. Не бачу ўсмешак. А цяпер усё паўторым разам з песняй.

*Танец.*

*Прыбягае прынц Шлагбаум.*

Шлагбаум. Стойце. Цішэй. Здарылася неверагоднае.

Знакі-Стрэлкі. Што такое? Што?

Светафор. Я слухаю, прынц Шлагбаум, гавары, што здарылася ў нашай Краіне дарожных знакаў.

Шлагбаум. З'ява нечаканая. Ясь, гэты непаслухмяны хлопчык, гэты хуліган, не баюся так назваць яго, адмаўляецца вывучыць правілы бяспекі руху пешаходаў.

Усе. Як гэта?

Шлагбаум. Ён нахаона заяўляе, што ўсё ведае, што машыны яму не перашкаджаюць на вуліцы.

Светафор. Дзе ён?

Шлагбаум. Узяў самакат і катаецца на ім на праезджай частцы вуліцы.

Знакі-Стрэлкі. Як гэта? Як гэта?

Шлагбаум. Вельмі проста. Адной нагой стаіць на самакаце, а другой адштурхоўваецца ад асфальту.

Знакі-Стрэлкі. Ах! Ратуйце яго!

Светафор. Увага! Загадваю ўсім светафорам Краіны дарожных знакаў: чырвонае святло!

*Рыпяць тармазы.*

Ідзіце, Шлагбаум, і прывядзіце яго да мяне.

Шлагбаум. Слухаюся, ваша свяцімельства. Але — як? Аднаго ці з самакатам?

Светафор. Самакат загадваю забраць і схаваць пад замок. Усё. Выконвайце.

*Шлагбаум выходзіць.*

А вы, мае Знакі-Стрэлкі, ці ўсе ведаеце, які заўтра дзень?

Знакі-Стрэлкі. Ведаем. Першы дзень заняткаў у школах.

Светафор. Добра. А ці ўсё падрыхтавана да гэтага ў маёй

**(Працяг на стар. 10)**



**Эва Базылюк, васьмікласніца са школы № 3 ў Бельску. Этнаграфічны гурток, у якім займаецца Эва, шмат сабраў прыгожых экспанатаў — прыкладаў матэрыяльнай культуры нашых дзядоў. Вышываная крыжыкам жаночая кашуля-блузка зроблена была на пачатку нашага стагоддзя ў вёсцы Кленікі.**

**Фота Яніны Чэрнякевіч.**

## Пяцёрка за канікулы

Я прыехаў наведаць маму. Вядома, перад маім прыездам яна зрабіла генеральную прыборку, непакоілася, як мне будзе ў яе ў гасцях. Я ўбачыў на стале свае школьныя сшыткі. Мама захоўвала іх. Калі мяне няма, яна сядзіць і пераглядае сшыткі, успамінае мяне маленькага.

Пяты клас. Сачыненне па літаратуры „Як я правёў канікулы". Цяпер гэтае сачыненне здзівіла мяне вялікай колькасцю арфаграфічных памылак. Няўжо я так кепска пісаў? На старонцы змясцілася апавяданне аб тым, як я ратаваў сабаку, што праваліўся ў палонку. „Берагі палонкі былі вострыя..." — так, гэта я і цяпер памятаю добра. З усяе сілы караскаўся я тады па гэтым лёдзе, і страціўшы раўнавагу, зваліўся ў ваду. Яна была ледзяная. Але пра сабаку я не забыўся. Выпхаў яго наверх. Выбраўся сам і засунуў выратаванае стварэнне сабе за пазуху. Дома адпаіваў Дружка — так яго назваў — цёплым малаком. Усе канікулы я правёў у ложку. Але мне не было сумна, са мною быў мой Дружок. Упершыню ў жыцці я адчуў, як гэта добра: клапаціцца пра некага.

— Ведаеш, чаму табе настаўніца паставіла тады пяцёрку? — спытала мама. Яна ж даўно ведала, што пяцёрку за сачыненне яе сыну паставілі за добрае сэрца. За тое, што я аказаў дапамогу, не спалохаўся небяспекі.

Сядзелі мы тады з мамай і гаварылі доўга-доўга аб маёй любімай настаўніцы. Яна навучыла мяне пісаць без памылак. Але я ўдзячны ёй і за тое, што яна вучыла мяне добра адносіцца да свету, да прыроды. Мы чыталі ў школе аповесць Г. Траепольскага „Белы Бім Чорнае вуха", і я якраз пасля таго выратаваў свайго Дружка.

**В. Гатоўцаў, біёлаг**

## Вершы Віктара Шведа

### ХТО НАЙБОЛЬШ БАЛБОЧА?

**— Як чалавека зваць такога, —**
**Настаўнік запытаўся ў школе, —**
**Які балбоча вельмі многа,**
**Хоць і не слухаюць ніколі?**
**На гэта адазваўся Сашка,**
**Які заўжды найбольш пікаўны:**
**— Дадумацца зусім не цяжка,**
**Вядома, гэта ж ёсць настаўнік!**

### СЫНОК, ЯК ТВОЙ ЗУБОК?

**Ад зубнога лекара вярнуўся**
**Моцным болем змучаны сынок.**
**Запыталася ў яго мамуся:**
**— Ці баліць, сыночку, твой зубок?**
**А сынок на гэта: — Я не знаю,**
**Як там адчувае сябе зуб,**
**Ён у лекара застаўся, дарагая,**
**Не магу самкнуць яшчэ я губ.**

### ПАМАЖ МНЕ ХЛЕБ НАЖОМ

**Пытае мама Лёню:**
**— Мой дарагі сынок,**
**Скажы, чым табе сёння**
**Памазаць твой хлябок?**
**Сынок, які чакае**
**На ежу за сталом,**
**Азваўся: — Дарагая,**
**Памаж мне хлеб нажом.**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

З народных песень

### ПАД КАЛІНОЮ, ПАД МАЛІНОЮ

Над калінаю, пад малінаю
Сядзеў галубчык з галубінаю,
Сядзеў галубчык з галубінай.

Цалаваліся, міловаліся,
Правым крылечкам накрываліся,
Правым крылечкам накрывалісь.

Прыляцеў сокал з-за сіня мора,
Забіў галубца — галубка ўдова,
Забіў галубца — галубка удов(а).

Сыплюць пшаніцу, ставяць вадзіцу:
— Пі, галубіца, бедна ўдавіца,
Пі, галубіца, бедна ўдавіц(а).

Яна не ела, яна не піла,
Па галубочку ўсё слёзы ліла,
Па галубочку ўсё слёзы ліл(а).

Паляцеў сокал за сіня мора,
Прывёў галубцаў дваццаць чацвёра,
Прывёў галубцаў дваццаць чацвёр(а).





...але я сапраўды быў на рыбалцы.

# НІЎКА



Братва, пачакайце крышку, мяне запрасілі на белы танец.

— Не ведаю, што рабіць з мужам, доктар. Ён гаворыць у сне.
— Так, гэта непрыемна.
— Ды яшчэ як! Тут днямі над ім уся кантора смяялася.

*

Сваячніца прынесла маленькаму сыну гаспадара падарунак. Хлопчык сказаў:
— Дзякую, цёця!
— Няма за што!
— Вось і я гэтак гавару, але мама ўсё роўна кажа падзякаваць.

*

— Ой, што я ведаю! Што я чула! Пра цябе ж, кума, твой сусед усялякую хлусню плявузгае на людзях.
— Гэта ж добра, што хлусню. А вось пра цябе, мая кумачка, дык твой кум усю чыстую праўду ўсюды расказвае.

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

Пашана да мінуўшчыны — вось рыса, адрозніваючая адукаванасць ад дзікасці.

*Аляксандр Пушкін (1799-1837), паэт.*



Найлепш за ўсё захоўваюцца сапсаваныя адносіны.

## ДАЎСПАМІНАЛІСЯ

— Сёння, даражэнькая, мінае другая гадавіна нашага шлюбу, — сказаў я, сеўшы побач з жонкай.

— Бачыш, Мішанька, як хутка праляцеў час! — здзівілася яна.

— А ці думала ты ў тыя школьныя часіны, што калі-небудзь станеш спадарожніцай майго жыцця? — запытаў я жартаўліва.

— Ды ніколі! Ты ж заўжды быў такі спакойны... Толькі ў дзевятым класе крыху ўзмужнеў... — прыгадвала яна.

— Пачакай, пачакай, — схамянуўся я. — Мы ж ужо ў восьмым класе хадзілі на спатканні!

— З глузду з'ехаў, ці што? — яна энергічна запратэставала. — Упершыню ты пацалаваў мяне, калі я кончыла дзевяць класаў. Потым ты паехаў вучыцца і пяць гадоў не пісаў мне ні слова. А я чакала, як дурная! — заспала жонка.

— Мабыць, ты, дарагая, карысталася вялікім поспехам, бо ў цябе ўсё пераблыталася, — буркнуў я з'едліва. — Як сёння помню наш першы пацалунак. Тады мы былі ў восьмым класе. На сустрэчу ты прыйшла з паўгадзінным спазненнем, і мы накіраваліся да рэчкі.

— Н-не, гэта ўжо занадта!.. У цябе курыная памяць! — гнеўна паднялася яна з крэсла. — Па-першае, ты мяне ніколі не чакаў, а прыходзіў да нас дамоў, а па-другое, мы не маглі хадзіць да рэчкі, бо ў нашым мястэчку яе ж не было!

— Чакай, чакай... — раптам я пазеляннеў. — Нічога не разумею. Наколькі мне вядома, у Дабрамыслі не было ракі?

— У якім Дабрамыслі?! Я ж скончыла гімназію ў Ажэхаве!

— Дык ты не Ядзя з гімназіі імя Баторыя ў Дабрамыслі?!

Тут у мяне валасы сталі дыбам.

— Безумоўна, не! Я — Ядзя з гімназіі імя Кюры-Складоўскай у Ажэхаве!

Я зусім разгубіўся, і ратунку не было. Толькі з майго горла вылецеў здушаны шэпт:

— Божа ты мой! Гэта ж я ажаніўся з зусім чужой жанчынай!!!

**Ежы Ясінскі**

Жонка, чытаючы журнал, гаворыць мужу:
— Уяві сабе, мужчыну, у якога было чатыры жонкі, асудзілі на два гады турмы...
— Для пакарання ці для адпачынку?

*

Шум, што даносіцца з суседняга класа, перашкаджае настаўніку весці ўрок. Ён заходзіць туды, хапае за вуха галоўнага крыкуна і вядзе ў свой клас. Па-суседску становіцца ціха. Праз некаторы час раздаецца стук у дзверы. Уваходзіць вучань з суседняга класа і гаворыць:
— Сіньёр настаўнік, вы б не маглі нам вярнуць нашага выкладчыка?





— Таксі нідзе няма, і я дагаварыўся з ім...



Прагрэсіўная баба Яга.

*

Сустракаюцца два пісьменнікі-шатландцы:
— Над чым працуеш?
— Над аўтабіяграфіяй.
— Ну і як, дайшоў да таго моманту, калі я табе пазычыў дзесяць фунтаў?

*

Літаратурны крытык запытаў у вядомага пісьменніка, ці ён знае тыя краіны, аб якіх піша. Пісьменнік адказаў, усміхнуўшыся: „Цікава, запыталі б вы аб гэтым у Дантэ, пасля таго, калі ён напісаў „Пекла“?

*

На маскарадзе ўсе адразу пазналі прафесара Кукіна: ён, як заўсёды, быў у масцы вучонага.

*

У самалёце сарамлівы хлопец ніяк не мог рашыцца загаварыць са сваёю суседкаю, чароўнай дзяўчынай. Нарэшце адважыўся запытаць:
— Прабачце, вы таксама ляціце гэтым самалётам?




Адзіны ратунак у душэўным горы — гэта праца.